імкненьні абаперціся аб Польшчу. Эндэцка-зуброўская палітыка з запраўды пякельным талентам змарнавала ўсё гэта.

Гэтыя фальшывыя ратаўнікі польскасьці на „крэсах“ адпіхаюць ад Польшчы вялізарную большасьць насяленьня „крэсув“.

Больш таго: яны прост *вучаць* тамтэйшы народ нацыянальнае барацьбы! Эндэцкая палітыка, праваціруючы народ, даводзіць да абастрэньня антаганізмаў, да шыбкага ўзросту нацыяналізму і сэпаратызму. У імя інтарэсаў „крэсовых“ зуброў і чыноўніцтва, дзеля ўзмацаваньня панаваньня ў Польшчы рэакцыйнае хіенскае своры—робіцца ўсё, каб падкапаць інтарэсы гаспадарства на „крэсах“.

І ў імя гэткіх пёзунгаў і такое палітыкі ладзіцца „Wielki tydzień Kresowy“...

Так піша „Robotnik“.

Але ў тым-жа „Robotniku“ знаходзім вестку, якая наводзіць надужа цікаўную думку. У маленькай заметцы „Rząd umacnia się“ „Robotnik“ гаворыць:

У соймавых колах шмат гаворыцца аб перамяшчэньні вайсковых часьцін, якое імкнецца да таго, каб у Варшаву перавясьці пазнанскія палкі замест тых, што цяпер тамака знаходзяцца. Паслы, добра знаёмыя з гэтай справай і кажуць, што гэтыя перамяшчэньні з вайсковага пункту гледжаньня ня маюць ніякае вагі, і што адзінай мэтай іх можа быць толькі жаданьне ўраду мець у сталіцы „верныя і адданыя яму“ войскі, якімі лічацца пазнанскія палкі. Ідзе аб тое, каб можна было абаперціся на гэтых „пэўных“ вайсковых часьцінах. І дзеля гэтага марнуюцца соткі мільёнаў марак, перасяляюцца соткі афіцэрскіх сямей.

Як бачым, стацьця нашае газэты аб „трывожных знаках“ знаходзіць новае абаснаваньне. Бязумоўна, падгатаўляецца нешта таёмнае. І выступленьне эндэцыі з сваім „вялікім тыднем“ у гэткі мамэнт родзіць думку: ці ня робіцца гэта дзеля таго, каб зьвярнуць увагу грамадзянства на „крэсы“, а тымчасам правясьці „таёмныя пляны“ эндэкаў у сталіцы?!...

# З УСЯЕ БЕЛАРУСІ.

## ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

### ХРОНІКА.

**Агульны Сход Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні.** У нядзелю 23 верасьня ў памешканьні Беларускае Школьнае Рады адбылося паседжаньне Агульнага Сходу Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні. Выбраны новы прэзыдыум, у склад якога ўвайшлі: старшыня пасол Ф. Ярэміч, віцэ-старшыня А. Луцкевіч, і сябры: М. Кахановіч і Я. Лагіновіч.

Быў заслуханы даклад аб конфлікце Віленскай Беларускай Гімназіі з адміністрацыяй Віленскай Праваслаўнай Сэмінарыі ў справе карыстаньня клясамі гімназіяй і сэмінарыяй. Пастаноўлена даручыць прэзыдыуму апрацаваць рэзалюцыю пратэсту з прычыны гвалтаў адміністрацыі сэмінарыі і дэлегаваць гр. Б. Друцкага-Падбярэскага ў склад Камісіі аб уладжаньні конфлікту.

Чарговы сход Беларускага Нацыянальнага Камітэту адбудзецца ў нядзелю 30 верасьня а 4 гадз. ў памешканьні Беларускай Школьнай Рады (Віленская 12, п. 6). Парадак дня: 1) Плян далейшае працы Камітэту, 2) Даклад Старшыні Беларускага Пасольскага Клюбу пасла Б. Тарашкевіча аб дзейнасьці беларускіх паслоў у Польскім Сойме і 3) Бягучыя справы.

У часе дакладу п. Тарашкевіча могуць быць прысутнымі ўсе жадаючыя.

У Вільню ў хуткім часе мае прыехаць Прэзыдэнт Польскай Рэспублікі п. Войцэховскі.

**Ахвяры на прэсовы фонд.** Праз пасла Валошына сабрана на мітынгу ў м. Крынкі — 150.000 м. п., ад гр. Лотыша 50.000 м. п.

**Мітынг P.P.S.** У нядзелю 23 верасьня ў Польскім Работніцкім Доме адбыўся мітынг, наладжаны P. P. S. у справе выбараў у Раду Касы Хворых. Гр. Лядоўскі гаварыў аб заданьнях Касаў Хворых, заклікаў прысутных, каб галасавалі на сьпісак P.P.S. № 2 і выклікаў вялікае абурэньне значнай часткі прысутных нападамі на сьпісак № 6 „Аб'яднанага Работніцкага Фронту“.

Пасьля гаварыў старшыня мітынгу Годвод, які яшчэ больш абвастрыў адносіны паміж прысутнымі. Ня даўшы нікому з жадаючых гаварыць слова, Годвод пасьпяшыў зачыніць мітынг. Меўшы выступіць на мітынгу пас. Недзялковскі, як кажуць, з прычыны хваробы ня прыехаў.

**Новая такса на хлеб.** 24 г. м. зноў падвышана такса на хлеб. Згодна з новай таксай сталовы хлеб 1-га гатунку — 5.000 м., 2-га — 4.500 м., белы хлеб—5.500, цана на чорны хлеб застаецца старая 3.500 м. за фунт.

**Забастоўка работнікаў дрэўляных на ст. Варапаева.** У панядзелак 17 верасьня забаставалі работнікі тартаку Стравы і Камп. у Варапаеве. Прычына забастоўкі—змаганьне за паляпшэньне эканамічных варункаў працы.

## Весткі з вёскі.

### Пра наша духавенства.

Працоўны народ Заходняй Беларусі праканаўся добра, што ў часе выбараў у Сойм бадай, што ўсе ксяндзы палякі ўсялякімі спосабамі цягнулі наш цёмны, забіты, знаходзячыся пад уплывам царквы і касьцёлу, народ за васьмёркай. Мусіць тыя, што галасавалі за іх, чэшуць цяпер патыліцу, бачучы працію паноў эндэкаў і іншых і не адзін з іх страціў веру ў сваіх духовых правадыроў. Трэба-ж гэту веру здабыць, трэба зноў заставіць аслушнікаў быць паслухнянымі і пакорнымі? А як усё гэта зрабіць, якімі спосабамі зрабіць зноў уплывы на народныя масы. Нашлі і тут спосабы. Пры дапамозе спавядаючыхся кабет, находзілі адрасы беларусаў у Амэрыцы. Разам з духавенствам другіх прыходаў пісалі да іх сьлезныя пасланьні і адозвы з прызывам падтрымаць зруйнаваныя і руйнуючыяся цэрквы і касьцёлы.

Плаксівае стагнаньне духавенства спатыкала з боку амэрыканскіх беларусаў значную дапамогу далярамі, акрамя таго яшчэ некаторыя з іх пісалі сваей радне, каб яна лепей глядзела за духавенствам, каб апякавалася ім. Гэта адна старана мэдалі. Паглядзім цяпер на другую. Паглядзім што-ж робіць духавенства і чым яно жыве? Тут абраз ужо мяняецца. Сьлёзаў і пастырскіх пасланьняў тут ужо няма, а ёсьць вясёлая кампанія. Замест пасланьняў „абразкі“, а замест чарніла, чарніла у сорак і болей тралесаў. Так ў Т. і В. ксёндз, поп, камэндант, а іншы раз і пан войт і інш. часта засядаюць за „абразкамі“, праігрываючы па 2—3 мільёны лёгка дабываемых грошаў. А калі да ксяндза ў Т. зьвярнуўся безьзямельны селянін Радзюкевіч пахаваць памершую жонку, то ксёндз запрасіў аж 400.000 марак. Ні сьлёзы, ні прычытаньне не памаглі. Трэба было пакрыць расход па гульні, бо мусіць іхняй гаспадаркі ў чатыры і болей валок не хватае на разгульнае жыцьцё. Не хватае мусіць грошаў і ад пабочных даходаў, якімі лічыцца коопэратыў ды гміная Рада. У м. Т. мне здарылася быць на фэсьце, дзе духавенства адмовілася ісьці на адну бедную вуліцу, прыбраную толькі зелянінай. Няўжо-ж сонца ня сьвеціць у хату беднага? Хрыстос сам-жа радзіўся ў беднай сям'і і сваіх апосталаў набраў з беднай рыбачай сям'і. Ну, але гэта, як відаць, было вельмі даўно, аб гэтым яны забыліся, як забыліся і аб заветах Вялікага Вучыцеля Хрыста. **Пак.**

**В. Зарое**, Камалеўскай гміны, Несьвіскага п.

Па просьбе жыхарства 14/VIII паслом Рагуляю быў наладжаны беларускі справаздаўчы мітынг. Народу, каб паслухаць свайго пасла, сабралося вельмі многа. Кожнаму хацелася падзяліцца сваімі крыўдамі і папрасіць рады, каб пазбавіцца розных гвалтаў і зьдзекаў над намі. Пасол Рагуля ў сваей гарачай прамове закрануў усе балючыя пытаньні: і школы, і мову, і асаднікаў, і войска, якое ў нас раскватэрована. З ім ў нас найболей клопату. Ня ведаем дзе шукаць ратунку. Ня толькі што забіраюць з поля рознае збожжа, але нават яшчэ і б'юць. Зьбіраюцца нашы пасылаць дэлегацыю да пана вайсковага міністра, можа ён нам паможа. Аб выніках дэлегацыі напішам падробна.

**Р.**

### Пазабавіўся.

У нашай Палачанскай гміне было нядаўна вельмі цікавае здарэньне, якое пакінула па сабе сьлед аж да сягоньняшняга дня. Пану камэнданту нашага пастэрунку захацелася пазабавіцца, ну вядома ў весцы нудна вазіцца ўвесь час толькі з сялянствам. На дапамогу прыйшла дачка папа, з якой пан камэндант і забаўляўся, аж пакуль ня трапіў а паўночы ў веску Пузэлі. Што яму думалася паказываць гэтым, але прыказаў сазваць, гэта а паўночы, ўсю вёску, нават з вартаю, і пачаў праверку чырвоных білецікаў на коні, выдаваных у прошлым годзе. У часе гэтай патрэбнай праверкі зладзеі ў аднаго з жыхароў вёскі ўкралі апошнюю кароўку. Далі знаць і пану камэнданту. Але ён памог бядзе, як кашаль у хваробе. У той-жа момант ён выслаў і сялян і паліцыянтаў шукаць і даганяць злодзея. Але злодзея і карову шукаюць і да сягоньняшняга дня. **Вясковы.**

## УСХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

### З Менску.

**У праўленьні цэнтральнага рабочага коопэратыву.** 28 жніўня адбылося першае пасяджэньне праўленьня цэнтральнага рабочага коопэратыву.

На пасяджэньні быў выбраны прэзыдыум праўленьня з 5 чал.

На гэтым-жа пасяджэньні пастаноўлена арганізаваць у цантральным рабочым коопэратыве 4 гэткія аддзелы: арганізацыйны, гандлёвы, грашовы і вытворчы

Аб'яднанае бюро беларускіх і расейскіх дзіцячых дамоў гор. Менску на апошнім сходзе выдзеліла спэцыяльную камісію дзеля падрыхтоўкі і нарады з жыдоўскімі і польскім дз. бюро аб першай конфэрэнцыі ўсіх дзіцячых дамоў Менску.

Гэтай конфэрэнцыі ўдзяляецца шмат увагі, бо яна зьяўляецца брамай да шырокай арганізацыі дзіцячых дамоў.

Грунтоўнае заданьне гэтай конфэрэнцыі будзе выяўляцца ў тым, каб аб'яднаць усіх дзяц[illegible] дзіцячых дамоў у адну агульную моцную арганізацыю.

Менская прэса выказвае пажаданьне, каб на гэтай конфэрэнцыі былі прадстаўнікі дзяцей з паветаў.

У недалёкім часе мае адбыцца Усебеларуская конфэрэнцыя дзяцей дзіцячых дамоў.

### Цікавасьць да беларускай літэратуры.

Чырвонаармейцы літэратурнага гуртка ў мясцовым палку зажадалі азнаёміцца з беларускаю літэратураю. Саюз прац. асьветы камандыраваў к чырвонаармейцам настаўніка Шатэрніка, які 1-га гэтага верасьня на працягу добрых дзьвёх гадзін азнаёміў аудыторыю—разумеецца ў агульных рысах—з „галаўнейшымі мамэнтамі і матывамі ў беларускай літэратуры.

Чырвонаармейцы праслухалі лекцыю надта ўважна і ў канцы давалі шмат пытаньняў: напр., ці рабілі польская і расейская літэратуры ўплыў на беларускую, а таксама і ўкраінская; ці ў Савецкай Беларусі поэты і пісьменьнікі Ц. Гартны, Ясакар, Бядуля, Колас, Купала і інш.

У далейшым часе чырвонаармейцы разам з вывучэньнем агульнай літэратуры будуць вучыць больш дакладна і беларускую літэратуру.

### Пукаўская вол., Случчына.

Праз некалькі дзён павінна пачацца праца ў школах Пукаўскае вол. Гэта ёсьць першы год, калі праца будзе вясьціся пры нармальных умовах. Школы, амаль што ўсе, маюць зямлю, будуць мець на зіму апал, школьныя працаўнікі таксама ўжо гэтак ня будуць галадаць. Адным словам, чуецца цьвёрды грунт пад нагамі. Настаўнікі, амаль што ўсе, былі на пэдагагічна-палітычных курсах, з якіх вярнуліся ўжо ня тымі ныцікамі, якімі былі ў мінулыя гады, а вярнуліся людзьмі з больш шырокім сьветапаглядам на акружаючае жыцьцё і на працоўную школу.

Наша працоўная школа можа з гонарам сказаць у гэтым годзе, што мае ў сябе новага настаўніка. Ён зьявіцца тым правадыром беларускай працоўнай культуры, на якую яшчэ многія з розных „духоўных“ асоб глядзяць крывым вокам.

А дзеля таго, каб настаўнік, як кажуць, працаваў, не пакладаючы рук, трэба каб Наркамасьветы, не шкадуючы, даваў літэратуру для вясковых настаўнікаў, без якое яны ня могуць працаваць нармальна.

Адным словам, за тры гады істнаваньня ў нас Радавае ўлады зроблена вельмі і вельмі многа на карысьць працоўнае культуры. Можна сказаць сьмела, што праз пяць гадоў мы будзем мець сотні шчырых працаўнікоў беларускае рабочасялянскае культуры, якія павядуць наш край па правідловаму шляху да сацыялізму. **М. А-чык.**

## Па Вітабшчыне.

Імкненьне земляроба к палепшаньню зямлі пачынае ўсё больш і больш павялічвацца. Так, напрыклад, у Храпавіцкай вол, Вітабскага пав., гідратэхнікі па заяве сялян пачалі дасьледаваньне балот з мэтай іх асушкі на плошчы ў 250 дз. Тамтэйшыя сяляне зразумелі, што, абярнуўшы балоты ў выгадную зямлю, яны павялічаць свой дабрабыт. Прыклад гэтых сялян, якія шляхам асушкі балот атрымаюць і пасьбішчы і сенажаць, бязумоўна, зьмусіць і іншых земляробаў зьвярнуць увагу на балоты, якія да гэтага часу прынасілі не карысьць, а шкоду.

## Курс на грошы.

**Варшава, 24 Верасьня.**

(Офіцыяльна).

| | |
|---|---|
| Даляры | 298.000 |
| Нямецкая марка | 0.00.205 |
| Фунты штэрл. | 1.367.000 |
| Франкі франц. | 18.100 |
| Франкі бэльгійск. | — |
| 10 руб. золатам | — |
| Польскі злоты | 45.000 |

Рэдактар-Выдавец **Я. Лагіновіч**.

Друкарня **Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.